# РУХ за свабоду

Бюлетэнь ПАГА "Рух "За Свабоду". Выпуск № 1 люты 2012



# Байкот – слабы ход

**Рух "За Свабоду" вызначыўся з тактыкай на "выбары-2012" і выступіў з ініцыятывай агульнага сцэнару дзеянняў дэмсілаў.**




Большасць апазіцыйных структур з Рухам салідарная: можна вылучацца кандыдатамі ў дэпутаты, каб выкарыстаць кампанію для легальных камунікацый з насельніцтвам, а затым зняцца з выбараў за некалькі дзён да галасавання, калі ў краіне застануцца на той момант палітвязні.

Рада Руху канстатавала, што ў Беларусі не існуе паўнавартаснага заканадаўчага органу, а ўлады па-ранейшаму праводзяць палітыку неканстытуцыйнага абмежавання грамадзянскіх правоў і свабодаў і адмаўляюцца дэмакратызаваць выбарчае заканадаўства і практыку яго прымянення; у краіне па-ранейшаму ўтрымліваюцца палітвязні.

Галоўнай мэтай удзелу ў палітычнай кампаніі 2012 года названы "*прадстаўленне альтэрнатывы сённяшняму рэжыму і павелічэнне падтрымкі дэмакратычных сілаў шырокім грамадствам*".

Найбольш дзейны механізм дасягнення такой мэты – "*інфармацыйна-агітацыйныя кампаніі кандыдатаў, якія могуць карыстаць з магчымасці кантактавання з людзьмі, пікетавання, выступлення ў дзяржаўных СМІ і данясення сваёй пазіцыі*".

Не з'яўляючыся палітычнай партыяй і, адпаведна, не маючы фармальнай магчымасці вылучаць сваіх кандыдатаў, Рух "За Свабоду" гатовы падтрымаць кампаніі тых незалежных або партыйных кандыдатаў, якія падзяляюць мэты і каштоўнасці Руху і маюць высокі грамадскі аўтарытэт і патэнцыял.

Разам рухаўцы звяртаюцца да ўсіх кандыдатаў ад дэмакратычных сілаў зняць свае кандыдатуры перад пачаткам галасавання, "*калі ў краіне (1) па-ранейшаму будуць палітычныя зняволеныя, а (2) практыка прымянення выбарчага заканадаўства істотна не палепшыцца*".

У межах палітычнай кампаніі выбараў у Палату прадстаўнікоў Рух выступае за шырокую папулярызацыю "Народнай праграмы". Партнёрскім палітычным сілам будзе прапанавана прыняць і прасоўваць выбарчы тэкст "Народнай праграмы" ў якасці супольнага дакумента шырокіх дэмакратычных сілаў.

**Працяг на с.2**

# "Не еўразійцы, а еўрапейцы"

**Якая галоўная задача стаіць сёння перад беларускай апазіцыяй? Пры якіх умовах вулічныя пратэсты прывядуць да змены палітычнага рэжыму? І якой павінна быць палітыка ЕС у дачыненні да Беларусі?**

Лідар Руху "За Свабоду" **Аляксандр Мілінкевіч** у інтэрв'ю газеце "Беларусы і рынак" адзначыў, што ўлада не мае доўгатэрміновых мэтаў і стратэгічных праграм развіцця краіны, а дзейнічае згодна з тактыкай выжывання.

– Калі для самазахавання трэба, то мы будуем Саюзную дзяржаву. Затым пасля крамлёўскіх "мух і катлет" пачынаем "дэмакратызацыю" і дыялог з ЕС. Ледзь распачатая інтэграцыя з Захадам у снежні мінулага года спыняецца дзеля рашэння задачы задач – захавання татальнага кантролю над грамадствам.

**Працяг на с. 4**

# Разметка руху ў Еўропу

**У офісе Руху “За Свабоду” 26 студзеня прайшла прэзентацыя кнігі “Еўропа – выбар свабодных беларусаў”.**

Экспертныя працы ў выглядзе тэматычных “дарожных мапаў”, якія складаюць зборнік, сталі сур’ёзнай заяўкай грамадзянскай супольнасці на ўдзел у перамовах паміж Еўрасаюзам і беларускімі ўладамі, зазначыў на прэзентацыі гэтага выдання 26 студзеня ў офісе Руху “За Свабоду” палітолаг **Андрэй Ягораў**.

Апрача гэтага, на ягоную думку, гэтыя тэксты спрыяюць з’яўленню стратэгічнай “дарожнай мапы” па дэмакратызацыі Беларусі. Андрэй Ягораў назваў зборнік “*разметкай руху нашай краіны да Еўрасаюза, да прасторы еўрастандартаў*”.

“*Пад спробамі дыялогу паміж Еўрасаюзам і афіцыйным Мінскам дагэтуль няма канцэптуальнага грунту. Маецца на ўвазе канкрэтна прапісанага сцэнара развіцця гэтага самага дыялогу, плана, як пакрокава рухацца далей, плана на перспектыву. Карацей, “Дарожнай мапы”*, – піша ва ўступным слове да кнігі лідар Руху “За Свабоду” **Аляксандр Мілінкевіч**.

А яна актуальная не толькі для тымчасовага заахвочвання ўладаў Беларусі ў трывалы дыялог для дэмакратызацыі сітуацыі ўнутры краіны і мадэрнізацыі яе эканомікі, што дапаможа зменшыць залежнасць ад Масквы, лічыць палітык: “*Дарожная мапа” патрэбная як маштабная доўгатэрміновая канцэпцыя для еўраінтэграцыі, бо гэта працэс, як паказвае досвед шмат якіх краін былога сацыялістычнага лагера, не просты і не хуткі. Разам з тым “Дарожная мапа” – гэта план рэформаў для паглыблення еўрапейскіх каштоўнасцяў у беларускім грамадстве, каб зрабіць гэты працэс незваротным*”.




Па словах Мілінкевіча, “*вельмі важным падаецца наладзіць уласна працэс “дарожнага мапавання” з уцягваннем у абмеркаванне як адмыслоўцаў, так і грамадства*”. Некаторыя тэмы “дарожных мапаў”: узаемадзеянне паміж уладамі і грамадзянскай супольнасцю, развіццё мясцовага самакіравання, права на свабоду сумлення і перакананняў, рэфармаванне сістэмы аховы здароўя, увядзенне прапарцыйнай сістэмы выбараў.

ВЫБАРЫ

# Байкот – слабы ход (працяг)

**Пачатак на с.1**

Як праваабаронча-асветніцкае грамадскае аб’яднанне, статутнай мэтай якога з’яўляецца садзейнічанне стварэнню ўмоваў для правядзення ў Беларусі свабодных і роўных выбараў у адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі, Рух “За Свабоду” заклікае іншыя грамадска-палітычныя сілы Беларусі арганізаваць супольную кампанію назірання з мэтай фіксавання парушэнняў выбарчага заканадаўства і інфармавання грамадзянаў пра рэальную карціну выбарчага працэсу.

Кажучы прасцей, то байкот звычайна ўспрымаецца як сядзенне на канапе і чаканне, што ж у выніку адбудзецца. Гэта такая спроба паказаць дулю ў кішэні. Гэта слабы ход, такім чынам мала што можна дасягнуць.

Бо выбары і так ніхто не прызнае. Але важна прыйсці да людзей і сказаць, што адбываецца ў краіне, якія рэформы патрэбныя, чаму мы так жывём, з-за чаго ў турмах знаходзяцца палітвязні.

Рух выступае за так званы актыўны байкот, пакуль палітвязні ў турме. Калі іх вызваляць, то можна на выбарах ісці і да канца.

> *Рух выступае за так званы актыўны байкот, пакуль палітвязні ў турме*

У грамадстве моцны страх, людзі стаміліся. А калі мы яшчэ не прыйдзем да выбаршчыкаў, то яны падумаюць, што ў іх проста няма альтэрнатывы. Таму вельмі важна паказаць, што апазіцыя ёсць. Так, нас саджаюць у турмы, звальняюць з працы, штрафуюць, але мы ўсё роўна дзейнічаем. Мы нешта можам у гэтай краіне, у людзей павінна з’явіцца вера ў перамены. А інакш – пустэча, пратэсты на кухнях і гарэлка.

Пра апазіцыю яшчэ ведаюць у грамадскай прасторы менавіта дзякуючы таму, што яна з’яўляецца падчас буйных палітычных кампаній. Напрыклад, калі б не выступы кандыдатаў па дзяржаўным тэлебачанні падчас кампаніі 2010 года, мала хто ўяўляў бы, чаго апазіцыя хоча і куды ідзе.

Наша задача сёння – дайсці да людзей, якія расчараваліся ў Лукашэнку, але не бачаць альтэрнатывы. Для іх байкот – незразумелая рэч, яна не дае адказы на пытанне, што трэба рабіць, хто вінаваты ў праблемах і як іх вырашаць. Гэта можна данесці толькі выкарыстоўваючы агітацыйную кампанію.

**Міраслаў ГАЖЭЦКІ**

# Шэнген-пропуск у Балгарыю

**Консульства Балгарыі ў Мінску паведаміла пра новыя правілы ўезду ў краіну для беларусаў.**

Прынята рашэнне тамтэйшага ўраду, што беларускія грамадзяне, якія маюць шэнгенскую візу, змогуць па ёй уязджаць на тэрыторыю Балгарыі на тэрмін дзеяння гэтай візы. Гэта рашэнне ўступіла ў сілу з 31 студзеня

Балгарыя разам з Румыніяй далучыліся да Шэнгенскага пагаднення 1 студзеня 2007 года, нагадвае газета "Турызм і адпачынак". Адмена памежнага кантролю ў гэтых краінах, як мяркуецца, адбудзецца ў 2012 годзе. Ва ўсялякім выпадку міністр замежных спраў Румыніі Крысціян Дыяканеску, які нядаўна заступіў на пасаду, заявіў, што прыкладзе ўсе намаганні, каб ягоная краіна стала паўнапраўным членам Шэнгенскай зоны сёлета.

# Бязвізавае памежжа

**1 лютага стартавала мясцовае памежнае перамяшчэнне паміж Беларуссю і Латвіяй.**

Яно дасць магчымасць жыхарам памежных тэрыторый абедзвюх краін (30-кіламетровая зона) перасякаць мяжу ў бязвізавым рэжыме.

Міжурадавае пагадненне аб гэтым было падпісана ў Рызе 23 жніўня 2010 года.

З 1 снежня 2011 года мясцовыя органы ўлады пачалі фармаванне спісаў жыхароў памежных тэрыторый, якія маюць права на атрыманне адпаведных дазволаў. Дазволы тэрмінам ад 1 да 5 гадоў будуць выдавацца на падставе спісаў жыхароў памежных тэрыторый: для Беларусі – у генконсульстве ў Даўгаўпілсе; для Латвіі – у консульстве ў Віцебску, паведамляе прэс-служба Дзяржпагранкамітэта.

# Клюшкай па шлагбаўме

**Уехаць у Беларусь без візы з перыяд з 25 красавіка па 31 траўня 2014 года змогуць удзельнікі чэмпіянату свету па хакеі і замежныя турысты-заўзятары.**

Каб скарыстацца такой магчымасцю, удзельнікі турніру павінны быць у адмысловых акрэдытацыйных спісах Міжнароднай федэрацыі хакею альбо мець квіткі, у тым ліку электронныя, на матчы, гаворыцца на гэты конт ва ўказе кіраўніка краіны.

Між тым, чэмпіянат свету можа і не адбыцца ў Беларусі. Нагадаем, адмяніць яго правядзенне ў нашай краіне з прычыны парушэння правоў чалавека патрабуюць ад Міжнароднай федэрацыі хакею шэраг краін, міждзяржаўных структур, асобных палітыкаў і грамадскіх дзеячаў.

Зрэшты, нават калі яна не адменіць правядзенне чэмпіянату свету па хакеі ў Беларусі, нельга выключаць таго, што пры захаванні цяперашняй палітычнай сітуацыі ў нашай краіне, турнір можа быць байкатаваны некаторымі дзяржавамі.

# "Чорны спіс" Еўрасаюза адрэдагуюць?

**Брусэльскі "Офіс за дэмакратычную Беларусь" звярнуўся да ЕС з прапановай перагледзець спіс неўязных беларускіх чыноўнікаў.**

У заяве Офісу гаворыцца: "*Зважаючы на той факт, што Еўрапейскі Саюз не мае намеру ўводзіць сапраўдныя эканамічныя санкцыі дзеля аказання ціску на беларускія ўлады, шэраг беларускіх арганізацый і палітыкаў палічылі, што ўнясенне зменаў у так званы "чорны візавы спіс" наблізіць час вызвалення палітычных вязняў*".

У выніку ОДБ агучыў у інстытутах ЕС гэту пазіцыю, прапанаваўшы імёны, якія можна было б патэнцыйна выключыць са спісу: "*Перагляд спісу мог бы стаць добрым сігналам таго, што ЕС не бярэ курс на поўную ізаляцыю Беларусі*". У той самы час прапанавана ўнесці туды новыя прозвішчы асоб, адказных за пераслед праваабаронцы Алеся Бяляцкага, нядаўнія рэпрэсіўныя папраўкі ў заканадаўства ды іншы ўціск на грамадзянскую супольнасць.

Паведамляецца, што спіс кандыдатаў на выключэнне быў падрыхтаваны ў супрацоўніцтве з беларускімі і міжнароднымі грамадскімі арганізацыямі, якія не могуць быць раскрытыя без іх папярэдняй згоды.

Лідар Руху "За Свабоду" **Аляксандр Мілінкевіч**, каментуючы гэту ініцыятыву, заявіў у інтэрв'ю радыё "Свабода", што візавыя санкцыі трэба шырока прымяняць, бо ўлада дэманструе абсалютнае ігнараванне прапановаў Еўрасаюза аб супрацоўніцтве, аб прыпыненьні рэпрэсій: "*І канкрэтныя людзі мусяць канкрэтна адказваць*".

Пры гэтым ён падкрэсліў, што выступае супраць шырокіх эканамічных санкцый, бо яны пагаршаюць становішча простых людзей і змяншаюць праеўрапейскія настроі.

"*Усе візавыя санкцыі ўведзеныя раней, мелі пад сабой падставы. Гэта, па сутнасці, маральная ацэнка. А ацэнка маральная застаецца такой, як была раней. Гэта не гульня ў тое, што ты стаў крыху лепшым ці горшым. Гэта маральная ацэнка людзей, якія жорстка парушалі закон і спрыялі рэпрэсіям*", – сказаў Мілінкевіч.

# “Не еўразійцы,

Працяг са с.1

Сёння рэжым дзеля падаўжэння свайго існавання гатовы прынесці ўсіх нас у ахвяру маскоўскім амбіцыям адраджэння “вялікай краіны”.

Ледзь аслабеў фінансавы крызіс. Зноў з Усходу ідуць танны газ, шмат нафты і крэдыты. Значыць, мы на правільным шляху? Вырашаюцца галоўныя праблемы нашай эканомікі? Не, усё гэта нагадвае лячэнне апендыцыту анальгінам. Нам патрэбныя мадэрнізацыя і рэформы. Самастойна мы іх не ажыццявім. Хто можа быць партнёрам? Кітай, Венесуэла, Расія? Зусім не, толькі Еўрасаюз. І Масква, і Пекін для мадэрнізацыі выбудоўваюць адносіны з Захадам. Яны – туды, мы – адтуль.

Еўразійскі саюз – не наш праект.

Не ў беларускіх інтарэсах выбудоўваць новы цэнтр сілы для канкурэнцыі з Брусэлем. У нас няма імперскіх гісторыі і амбіцый. Мы не сыравінная краіна. Нам не пасуе заставацца толькі зборачным цэхам, прыдаткам па перапрацоўцы сыравіны, пастаўшчыком сельгаспрадукцыі. Нашай мэтай павінна быць пабудова дзяржавы з еўрапейскімі стандартамі і сучаснай высокатэхналагічнай канкурэнтнай эканомікай, у першую чаргу навукаёмістай.

**– Якой павінна быць тактыка апазіцыі ў сённяшніх умовах? На што ў сваёй дзейнасці дэмсілы павінны рабіць акцэнт?**

– Сёння ў грамадстве часцей за ўсё на нас глядзяць як на дысідэнтаў: “*смелыя, праўду кажуць*”. Але ў палітыцы мала быць каментатарам, трэба стаць пазітыўнай альтэрнатывай улады. Неабходна, каб у свядомасці большасці людзей было разуменне, што дэмакратычнай апазіцыі можна даверыць краіну.

У кампаніі-2006 тыповая рэакцыя выбаршчыкаў выяўлялася словамі: “*Хто, калі не ён?*” Праўда, гэта быў яшчэ і пік эканамічных поспехаў. А на апошніх выбарах, калі незалежныя кандыдаты распавядалі аб тым, што далей так жыць нельга і што ўлада трэба мяняць, людзі, як правіла, казалі: “*Так і нам Лукашэнка не падабаецца. Але скажыце, чаму пры вас жыццё будзе лепш?*”.

Прычын такога стану грамадскай думкі шмат – рэпрэсійны рэжым, манаполія на СМІ, неэфектыўная праца дэмакратычнай супольнасці, адсутнасць рэальнай палітычнай канкурэнцыі. І яшчэ адна праблема. З-за адсутнасці рэальных выбараў дэмакраты не былі ва ўладзе з 1996 г. Таму ў выбаршчыкаў няма магчымасці ўбачыць нас у справе. Прапаганда ўмела гэта выкарыстоўвае і цынічна вяшчае: “*А што вы зрабілі для людзей?*”.

Але калі мы палітыкі і параней шаму актуальнае старое пытанне: “*Хто, калі не ён?*”, наша прамая задача прапанаваць пераканаўчы адказ на яго.

Нам неабходна не столькі спадзявацца на выбары, якіх няма, на “*каляровую рэвалюцыю*”, якую складана рэалізаваць з-за татальнага страху, – нам трэба перамагаць у розумах людзей. Калі ў іх будзе ўсё менш дыктатуры, а больш дэмакратыі і Еўропы, то мы абавязкова вернемся на цывілізаваны шлях развіцця.

Калі я кажу “*еўрапейскі шлях развіцця*”, то не маю на ўвазе, што трэба ў гэтую хвіліну бегчы ў Брусэль і грукаць у дзверы ЕС. Я пад гэтым разумею пераход да еўрапейскіх каштоўнасцяў, да еўрапейскіх стандартаў, да дэмакратычных інстытутаў.

Мы пакуль яшчэ не гатовыя ўступаць у Еўрасаюз, і ён не гатовы нас прыняць. Гаворка ідзе пра мэты трансфармацыі, пра характар рэформаў. Мы не еўразійцы, мы – еўрапейцы. І ў нас не павінна быць комплексаў. Беларусы па сваім эканамічным патэнцыяле, інфраструктуры, узроўню адукацыі, працавітасці відавочна былі б першымі пры пашырэнні ЕС на ўсход. Наперадзе Украіны, Грузіі, Малдовы.

**– Чаму, нягледзячы на відавочны рост незадаволенасці, беларусы не пераходзяць да актыўных формаў пратэсту? І ці магчыма наогул вулічнымі акцыямі змяніць палітычны рэжым?**



– Ад бурчання на кухні да масавых маніфестацый - значная дыстанцыя. Аўтарытарныя рэжымы, як правіла, падаюць менавіта ў выніку пратэстаў на вуліцы. Але ў нас у краіне яны былі не сацыяльныя, а маральныя, у тым ліку “*маўклівыя акцыі*”.

Гэта вялікая розніца. У 2006 і 2010 гг. людзі выйшлі на плошчу не таму, што яны беспрацоўныя і ў іх пустыя халадзільнікі. Выйшла дэмакратычная эліта, таму што яна не жадае жыць у хлусні, у несправядлівасці, таму што яна лепш іншых разумее, што аўтарытарная сістэма вядзе нас у тупік. Нават у дэмакратычных краінах маральны пратэст звычайна падтрымліваецца меншасцю.

Вялікая “*вуліца*” ў нас можа атрымацца ў выніку глыбокага эканамічнага крызісу. Толькі штучна падаграваць гэты крызіс, напрыклад, санкцыямі як мінімум небяспечна, таму што трэба думаць не толькі аб дэмакратыі, але і аб суверэнітэце. А абвал эканомікі ў сённяшняй сітуацыі, упэўнены, можа прывесці да страты незалежнасці Беларусі. Нас проста

# а еўрапейцы"

возьмуць голымі рукамі.

"*Вуліца*" па-ранейшаму застаецца адным з нашых інструментаў на шляху да пераменаў. Але мы павінны пазбавіцца ад яе міфалагізацыі. У вялікай палітыцы фокусаў не бывае. Мірныя рэвалюцыі не прызначаюцца, яны спеюць у грамадстве, а не ў стратэгіях кандыдатаў на вышэйшую пасаду ў дзяржаве.

**– Як вы ставіцеся да масавай акцыі пратэсту 19 снежні 2010 года? Ці не было правядзенне гэтай акцыі памылкай?**

– Я цвёрда ўпэўнены, што ва ўмовах шырокіх фальсіфікацый выбараў мы абавязаны выходзіць на плошчу для абароны нашага гонару. Але пратэсты трэба старанна арганізоўваць.

Важна, каб апазіцыя была аб'яднаная і мела выразны план дзеянняў. У ідэале ў аўтарытарнай краіне неабходны адзіны дэмакратычны кандыдат. Гэта магутны мабілізацыйны фактар. Людзі кажуць: "*Калі вы цяпер не аб'яднаныя, тое што ад вас чакаць, калі вы прыйдзеце да ўлады?*" І сёння апазіцыя маргіналізуецца шмат у чым таму, што не вызначыла лідара. Двойчы ў нас быў адзіны кандыдат – у 2001 і 2006 гг. У 2010-м не ўдалося.

**– А сёння адзіны лідар наогул магчымы?**

– Я думаю, што сёння, калі так востра стаіць геапалітычны пытанне, можа быць, і немагчымы. Мы ж не польская "Салідарнасць", якая была ўся за еўрапейскі шлях развіцця. Мы розныя і гэта натуральна. Іншы час, іншая гісторыя.

Таму я яшчэ ў 2007 годзе на Кангрэсе дэмакратычных сіл прапаноўваў: паколькі ў нас ёсць дзве групы, адна праеўрапейская, іншая прарасійская, то давайце створым два блокі, і яны ў межах АДС будуць выпрацоўваць агульную стратэгію барацьбы за дэмакратыю, разам змагацца супраць дыктатуры, але пры гэтым прапаноўваць беларусам розныя праграмы, featureбачанне будучыні. Гэта прапанова не была прынятая. АДС узначальвалі па чарзе лідары партый, і яны распаліся.

Не выходзіць у дэмакратаў сябраваць толькі па прынцыпе "*мы супраць*", супраць Лукашэнкі. Добра сябраваць атрымліваецца, калі ўсе разам "*за*". Сапраўднае аб'яднанне магчыма толькі на каштоўнасцях і ідэі.

**– Перад падзеямі 19 снежня 2010-га мы цягам амаль двух гадоў былі сведкамі пацяплення ў адносінах з Захадам. Многія лічаць, што курс ЕС тых часоў быў памылковым. Як вы з пункту гледжання сённяшняга дня ацэньваеце палітыку ЕС у 2008-2010 гг.?**

– Захад выкарыстаў два падыходы ў дачыненні да Беларусі. Пасля непрызнанага канстытуцыйнага рэферэндуму 1996 года (акрамя змены Канстытуцыі Беларусі, прэзідэнт прадухіліў імпічмент і распусціў Вярхоўны Савет) ЕС справядліва выкарыстаў палітыку мяккіх санкцый і ізаляцыі.

Што ў выніку? Рэпрэсіі ўзмацняліся, страху станавілася ўсё больш, ліквідаваліся грамадскія арганізацыі і палітычныя партыі, расла колькасць палітвязняў і эканамічная залежнасць ад Расіі стала пагрозлівай.

Той падыход быў абсалютна маральным і адпавядаў каштоўнасцям Еўрасаюза. Але палітыка тым і адрозніваецца ад пазіцыі, што ў ёй цэніцца перш за ўсё вынік. А ён быў у цэлым адмоўны.

Тое, што Еўрасаюз тры гады таму ўжыў іншы падыход, – я лічу правільным. Мэта ЕС – дэмакратыя і незалежнасць у Беларусі, а яны былі пад пагрозай, асабліва пасля вайны Расіі з Грузіяй.

Палітыка дыялогу не была здрадай прынцыпам. Прыезд Хаўера Саланы ў Мінск не быў прызнаннем Лукашэнкі як легітымнага кіраўніка. Гаворка ішла аб пакрокавым збліжэнні, правядзенні рэформаў, неабходных нашай краіне.

Калі эканамічныя пераўтварэнні, хай і непаслядоўныя, пачаліся, то на рэальную палітычную лібералізацыю ўлада не вырашылася.

Даводзіцца чуць: дыялог таксама не даў выніку. Не згодны. Гэта быў перыяд, калі грамадзянская супольнасць і незалежныя медыі мелі значна больш спакойныя ўмовы дзейнасці. Рэпрэсіі зменшыліся. Самі выбары 2010 года да дня галасавання былі "*святам дэмакратыі*". Поспехам дыялогу было і тое, што ў грамадстве з'явілася надзея на інтэграцыю з ЕС, значна ўзраслі праеўрапейскія настроі.

**– Што нас чакае ў 2012 годзе?**

– Гэта будзе эканамічна складаны год. Вострыя фінансавыя праблемы застаюцца. Пакуль Расія прафінансавала Лукашэнка напярэдадні сваіх выбараў і за ўдзел у стварэнні Еўразійскай саюза. Ці захоча Масква падтрымліваць і пасля абрання прэзідэнта стабільнасць беларускай эканомікі – вялікае пытанне. Хочацца верыць, што ва ўладзе пераможа думка аб неабходнасці пэўных крокаў па дэмакратызацыі, бо без гэтага абсалютна немагчымыя кантакты з Захадам. Не выключана, што ўлада пойдзе на гэтыя крокі, баланс у знешняй палітыцы часткова адновіцца. Гэта дасць магчымасць пачаць рынкавыя рэформы і адысці ад абсалютнай залежнасці ад Расіі, якая сёння прыводзіць да эканамічнай анексіі.

# Пакараць нельга памілаваць

**Ніводная судовая сістэма, нават самая ідэальная, не можа гарантаваць адсутнасць судовых памылак. Дзясяткі прыкладаў гэтаму мы ведаем у розных краінах. І Беларусь не выключэнне - сумна вядомая "справа Міхасевіча", калі нявінны чалавек быў неправасудна расстраляны. З новай сілай гэтая тэма магчымай судовай памылкі загучала ў сувязі са справай па тэракце ў мінскім метро.**

Пытанне скасавання смяротнага пакарання ў Беларусі было абмеркаванае экспертамі "Народнай праграмы" (Prahrama.by).

**Алег Гулак**, старшыня Беларускага Хельсінкскага Камітэта, кажа, што, паводле ацэнак сацыёлагаў, стаўленне да смяротнага пакарання дзеліць беларускае грамадства амаль напалову – з перавагай яе прыхільнікаў на 6-8 адсоткаў. Яны лічаць, што гэта традыцыйны важны спосаб барацьбы са злачыннасцю і аднаўлення справядлівасці. Але гэты падыход толькі на першы погляд выглядае пераканаўчым, даводзіць эксперт:



"*Спецыялісты розных краін, якія вывучаюць праблемы злачыннасці, прыйшлі да высновы, што не існуе ніякіх сур'ёзных доказаў таго, што смяротнае пакаранне ўплывае на зніжэнне ўзроўню злачыннасці ў большай ступені, чым іншыя віды пакарання. Гэта пацвярджае і беларуская статыстыка: у 1990-х гадах штогод выносілася больш за 40 смяротных прысудаў, і мы мелі высокі ўзровень цяжкай злачыннасці. Затым смяротнае пакаранне сталі прымяняць на ўзроўні 2-4 прысудаў на год – і праваахоўныя органы канстатуюць паступальнае зніжэнне колькасці цяжкіх злачынстваў*".

Справядлівым забойства чалавека, хай злачынцы і па прысудзе суду, можа выглядаць толькі ў грамадстве, якое жыве па прынцыпах помсты і старазапаветнага "вока за вока",

> "*Справядлівым забойства чалавека, можа выглядаць толькі ў грамадстве, якое жыве па прынцыпах помсты*"

кажа Гулак. У сучасным свеце ўжо дзве траціны дзяржаў адмовіліся ад смяротнага пакарання, і гэта найбольш развітыя краіны. На жаль, у Еўропе толькі наша краіна працягвае выносіць і выконваць смяротныя прысуды.

"*Адмена смяротнага пакарання, безумоўна, спрыяла б прагрэсу беларускага грамадства і аднаўленню рэпутацыі краіны*", – рэзюмуе кіраўнік БХК.



Сваё меркаванне выказаў таксама **Алег Алкаеў**, былы начальнік Следчага ізалятара №1 у Мінску, які на гэтай пасадзе кіраваў камандай, што выконвала смяротныя прысуды.

"*Калі разглядаць смяротнае пакаранне як стрымваючы фактар росту цяжкіх злачынстваў, у прыватнасці забойстваў, то, несумненна, эфект ёсць. У гэтым добра дасведчаныя як праваахоўныя органы, так і крымінальныя структуры. Сваё жыццё шануюць усё. Для асоб, якія вядуць законапаслухмяны лад жыцця і далёкіх ад крыміналу, карціна злачыннасці і барацьбы з ёй выглядае некалькі інакш, бо залежыць ад таго, як падаюць гэтую праблему сродкі масавай інфармацыі*", – спрачаецца Алкаеў з Гулаком.

Разам з тым ён звяртае ўвагу на праблему даверу да судоў і кажа, што сёння ўжо наспела выключэнне смяротнага пакарання з Крымінальнага кодэкса: "*Бо ў Беларусі гэты від пакарання існуе не толькі як мера ўздзеяння на злачынцу, але самае галоўнае – як інструмент утрымання і падтрымання прэзідэнцкай улады. Свайго роду страхоўка ад замахаў, змоў і пераваротаў у сілавых блоках і бліжэйшым атачэнні*".

Кожны змоўшчык у выпадку няўдачы будзе пакараны. Калі ж яму захаваюць жыццё, то

> "*У Беларусі гэты від пакарання існуе не толькі як мера ўздзеяння на злачынцу, але і як інструмент утрымання і прэзідэнцкай улады*"

пры змене ўлады ён атрымае вызваленне і стане нацыянальным героем. Вось адна з самых галоўных прычын, па якой смяротнае пакаранне ў Беларусі пры гэтай уладзе адменена не будзе, лічыць Алкаеў. Другая, на ягоную думку, прычына – супраціў сілавікоў: "*Яны менш за ўсё абаронены ад расправы. Я маю на ўвазе фізічную і тэхнічную абарону. У іх няма ні аховы, ні бронеаўтамабіляў, ні іншых атрыбутаў, якія гарантуюць бяспеку ад замаху. На іх думку, толькі немінучае смяротнае пакаранне з'яўляецца сёння гарантам іх бяспекі*".

Нарэшце, паводле Алкаева, "*любое, нават самае быдлячае жыццё пакідае надзею на змены ў лепшы бок. Таму чалавек і жыве ў самых суровых умовах і не накладае на сябе рукі. Таму смяротнікі і пішуць хадайніцтва аб памілаванні. Яны згодны на любыя ўмовы, але толькі каб ім захавалі жыццё*".

**Міраслаў ГАЖЭЦКІ**

# Канстытуцыя: абараніць і перапісаць

**“Мы, народ Рэспублікі Беларусь, ... імкнучыся зацвердзіць правы і свабоды кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, жадаючы забяспечыць грамадзянскую згоду, непахісныя ўстоі народаўладдзя і прававой дзяржавы, прымаем гэту Канстытуцыю – Асноўны Закон Рэспублікі Беларусь”. Яшчэ тэма для абмеркавання ў межах кампаніі “Народная праграма” – Канстытуцыя, яе абарона і ўдасканаленне.**

Вучоны, сябра Рады Саюза “За мадэрнізацыю” **Кастусь Лукашоў** адзначае, што ў першым жа абзацы Канстытуцыі пазначаныя яе праблемы: абстрактны “народ” і дэкларатыўныя “імкнучыся” і “жадаючы” – пустыя, хоць і прыгожыя словы.

На ягоную думку, найноўшая гісторыя Беларусі, а асабліва падзеі лістапада 1996 г., выразна паказалі, што Канстытуцыя ў нашых рэаліях толькі інструмент палітычных гульняў. Адпаведна, асноў канстытуцыйнага ладу ў Беларусі няма наогул, хай у асобных праявах пэўныя артыкулы Канстытуцыі выконваюцца.

Дзяржаўныя інстытуты не выконваюць асноватворных артыкулаў у частцы правоў і свабод грамадзян, дапускаюцца парушэнні палітычных і эканамічных асноў канстытуцыйнага ладу (ад поўнай зачысткі палітычнага поля да ваенных саюзаў і продажу замежнікам нашых рэсурсаў і прадпрыемстваў). Як вынік – неадпаведнасць Канстытуцыі рэальнаму стану рэчаў і неадпаведнасць артыкулаў апошняй рэдакцыі Асноўнага закона шэрагу законаў і заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь.

“*На дадзены момант няма інстытутаў, якія забяспечваюць абарону канстытуцыйнага ладу. Дэкларатыўна абавязанае гэта рабіць упраўленне КДБ займаецца звычайным палітычным вышукам. Парламент не выконвае сваіх функцый. А народ пазбаўлены канстытуцыйных правоў, пра судовую сістэму наогул няма чаго казаць*”, – лічыць эксперт “Народнай праграмы”.

Лукашову важным момантам бачыцца замена тэрміна “народ” на паняцце “грамадзяне”, з болей вычарпальным пералікам правоў і абавязкаў грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, улічваючы магчымасць люстрацыі ў той ці іншай форме.

“*Не менш важным павінна стаць прамое дзеянне Канстытуцыі, што дасягаецца выключэннем любых спасылак, такіх як “калі іншае не прадугледжана міжнароднымі дамовамі Рэспублікі Беларусь” альбо “ажыццяўляюцца ў адпаведнасці з законам”... Але асноўнай праблемай застаецца непарушнасць саміх канстытуцыйных прынцыпаў і наяўнасць працаздольных механізмаў забеспячэння гэтай самай непарушнасці*”, – кажа Лукашоў.

Былы старшыня Вярхоўнага Савета **Мечыслаў Грыб** даводзіць, што “*варта казаць як пра недасканаласці ўласна зместу Канстытуцыі, так і аб практыцы яе праваапрымянення*”.

На думку Грыба, “*трэба вярнуцца да Канстытуцыі-1994: яна была дэмакратычная, прааналізаваная міжнароднымі экспертамі і прызнаная ва ўсім свеце*”.

Тым не менш, і ў яе неабходна ўносіць змены, лічыць другі эксперт “Народнай праграмы”: “*У прыватнасці, у раздзел аб прэзідэнцкай уладзе, абмежаваўшы яе на карысць Савета міністраў. Варта змяніць сістэму выбараў, перайшоўшы спачатку да змешанай (прапарцыйна-мажарытарнай) сістэмы. Абавязкова павінна быць прапісана выбарнасць мясцовых уладаў*”.

Мечыслаў Грыб зазначае, што “*пры выбарнасці мясцовых уладаў нарэшце запрацуе ўступная частка Канстытуцыі, у якой гаворыцца, што крыніца ўлады ў Беларусі – народ*”.

Палітолаг **Уладзімір Падгол** кажа, што сталінская Канстытуцыя ў СССР таксама была нібыта дэмакратычнай: “*Рэч у тым, што ў аўтарытарнай дзяржаве не можа быць такога паўнавартаснага паняцця, як праваапрымяненне*”.

Беларускую Канстытуцыя ён называе імітацыйнай брашурай, наяўнасцю і дэманстрацыяй якой улады намагаюцца даказаць, што збудавалі дэмакратычную краіну.

“*Сітуацыя можа змяніцца, калі пры ўладзе будзе іншы чалавек. Гэта пацвярджае і сам Лукашэнка, калі кажа, што пры іншым кіраўніку краіны будзе ўладкаваная зусім іншая сістэма*”, – перакананы палітолаг.

Між тым, адзначае ён, развіццё падзеяў і змена ўлады могуць павярнуць сітуацыю ў розных кірунках.Напрыклад, аўтарытарная ўлада перарасце ў таталітарную. Ці можа ўсталявацца дэмакратычны лад: “*Тады трэба будзе думаць пра тое, як дзейнічаць у пераходны перыяд, пра часовыя законы. Імгненна нічога не мяняецца. Самым важным будзе патрабаванне ад суддзяў і выканаўчай улады трымацца прынцыпу вяршэнства закону, каб выконвалася хаця б тая Канстытуцыя, якая ёсць*”.

**Андрэй ЦЫБАЦЕНКА**

# Злабадзёнцы ўлёткі

**За іх распаўсюд у Мінску актывіст Руху Ян Мельнікаў быў асуджаны ў студзені на 15 сутак адміністратыўнага арышту.**




**Улёткі былі выпушчаны ў рамках кампаніі "Страху няма!":**




**з дапамогай гумарыстычных малюнкаў выкрываецца супрацьпраўны характар апошніх папраўак у заканадаўства.**




# Зміцер Бартосік – сябра Руху "За Свабоду"



**Вядомы ў асяродку беларушчыны выканаўца аўтарскай песні Зміцер Бартосік напісаў 31 студзеня заяву на ўступленне ў Рух "За Свабоду"**

Зміцер кажа, што жаданне далучыцца да дзейнасці арганізацыі, якую ачольвае Аляксандр Мілінкевіч, узнікла яшчэ ў 2006 годзе. Ён адзначае, што вельмі паважае кіраўніка Руху "За Свабоду" як асобу, а таксама мае шмат сяброў сярод актывістаў арганізацыі.

Цікава, што кабінет Аляксандра Мілінкевіча апошнія некалькі год аздабляе калаж мастака Алеся Пушкіна з выявай рук Змірта Бартосіка. Гаворка вядзецца пра твор "Рукі музыкі".

"*Бартосік зайшоў да нас, убычыў свае рукі і застаўся*", – жартоўна адзначылі супрацоўнікі офіса.

# Што чытаюць беларусы?

**Як змянілася становішча беларускай літаратуры за часы незалежнасці? У 2011 годзе напярэдадні Года кнігі Саюз беларускіх пісьменнікаў звярнуўся да лабараторыі "Новак" з просьбай правесці апытанне, каб даведацца, колькі і што чытаюць беларусы.**

Вынікі атрымаліся несуцяшальныя.

Беларусы чытаюць мала. Ніколі не бярэ ў рукі кнігу траціна насельніцтва – 33,7%! Палова беларусаў кніг не купляе, у лепшым выпадку пры патрэбе пазычаюць у знаёмых ці бяруць у бібліятэцы.

Сучасную замежную літаратуру (у першую чаргу рускую) ведаюць лепей за сваю. 62 % апытаных наогул не цікавяцца беларускімі кнігамі. Істотная частка (13,3%) зусім не ўмее чытаць па-беларуску!

На пытанне пра тое, якіх сучасных беларускіх пісьменнікаў вы ведаеце, найчасцей называюць імёны, якія сталі знакавымі яшчэ за савецкім часам: Васіля Быкава (6,5%), Уладзіміра Караткевіча (3,8%), Івана Шамякіна (3,2%). Пераважная ж большасць не ведае нікога (74,6%).

Вось як каментуе вынікі апытання старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў **Барыс Пятровіч**:

"*Выяўляецца, што літаратурныя імёны-брэнды савецкіх часоў беларусы дагэтуль памятаюць, а вось новых так і не з'явілася. Гэта значыць што той курс, які ўзяла Беларусь у культурнай сферы – малаэфектыўны. Год кнігі – добрая нагода, каб аб'яднаць высілкі дзяржавы і грамадскіх арганізацый дзеля змены сітуацыі. Самы важны клопат дзяржавы ў галіне культуры – падтрымліваць мову карэннай нацыі краіны…* ".

Газета выдаецца Рухам "За Свабоду". Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 3.02.2012 г. Кантакты Рэдакцыі: тэлефон: 2808863, е-пошта: info@pyx.by